## БІЗНЕС-КЛАС

### "СПРАВА ШЫШОВА" – АДКРЫТА І...ЗАКРЫТА

З афіцыйным заклікам да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ўбачыць і своечасова спыніць пачатае ў рэспубліцы "паляванне на ведзьмаў" вырашыў звярнуцца на праведзенай вечарам 24 кастрычніка экстраннай прэс-канферэнцыі буйнейшы ў рэспубліцы камерцыйны банк "Прыорбанк".

Прычынай для такога экстраннага сходу ў сценах "Прыорбанка" журналістаў, кіраўнікоў буйных камерцыйных банкаў, прадстаўнікоў пасольстваў, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, МВФ і іншых міжнародных фінансавых арганізацый стаў арышт першага намесніка старшыні праўлення гэтага банка Сяргея Шышова.

Праз дзве гадзіны пасля заканчэння прэс-канферэнцыі Шышоў быў вызвалены з-пад варты.

Што ж, відаць, на гэты раз самым дзейсным інструментам абароны для банкіра стала "чацвёртая ўлада"...

### У ПОЛЬШЧУ – ПА ТАВАР

На думку начальніка мытні "Заходні Буг" Вячаслава Асінцава, сёння большасць нашых турыстаў едзе ў Польшчу, што называецца, паражняком.

На даляры, выручаныя раней на польскіх базарах, яны купляюць за Бугам харчаванне і тавары народнага спажывання, якія там значна таннейшыя. Тым самым нашы суайчыннікі і грамадзяне Расіі, якія едуць цераз Варшаўскі мост, няблага падтрымліваюць дробны і сярэдні бізнес у суседняй краіне, інвесціруючы ў яго развіццё мільёны важкіх даляраў.

### "МЕРСЕДЭС-БЭНЦ" ПРЭЗЕНТУЕ

У Мінску адбылася прэзентацыя тэхнагандлёвага цэнтра кампаніі "Мерседэс-Бэнц", прадстаўніком якой на Беларусі стала фірма "Гебрудэр Хельбіг".

Адкрыццё цэнтра дасць магчымасць пашырыць пастаўкі на беларускі рынак аўтамабіляў вядомай нямецкай кампаніі, сярод якіх будуць легкавыя і грузавыя машыны, мікрааўтобусы і спецыяльны аўтатранспарт, у тым ліку пажарныя машыны і машыны "хуткай дапамогі". Акрамя гэтага, новы цэнтр бярэцца за ўсе віды рамонту аўтамабіляў. Фірма адкрыла дылерскія цэнтры ў Брэсце, Гомелі, Магілёве, Гродна, а зараз такі цэнтр плануецца стварыць і ў Віцебску. Трэба адзначыць, што сваю прадукцыю ў Беларусі фірма рэалізуе па заводскіх цэнах — на 15 працэнтаў танней, чым у Германіі.

Наталля ВАЛАКІДА.

## РОЗДУМ НАД ПРАБЛЕМАЙ

# Школа ўступае ў рынак

*Вецер рынычных перамен усё больш асвяжае наша прывычнае жыццё, ламае многія ўяўленні, мяняе маральныя асновы. У тым ліку нашы адносіны да грошай, асабістага дабрабыту, прадпрымальнасці, умення забяспечыць сабе дастойнае існаванне. Добра гэта ці дрэнна?*

І тое, і другое. Нямала з таго, што склалася ў былой савецкай школе, жыццёва неабходна і сёння. Але нямала прыйдзецца перарабіць і стварыць нанава. Да такога "новага" і адносіцца эканамічная адукацыя школьнікаў. Яе ўвядзенне ў школах рэспублікі выключна важна. Адсутнасць элементарнай эканамічнай падрыхтоўкі моладзі з'яўляецца адной з прычын цяперашняй эканамічнай і дзелавой пасіўнасці большасці насельніцтва. Трапляючы пасля ціхага размеранага школьнага жыцця ў бурлівую рыначную стыхію, былы школьнік, асабліва калі ён быў вельмі паслухмяным, дысцыплінаваным і выхаваным, аказваецца бездапаможным перад жорсткім фактам самазабеспячэння і самавыжывання. На жаль, не са школы, а з уласнага, часам драматычнага пасляшкольнага вопыту ён пачынае ўсведамляць, што ў жыцці трэба разлічваць не на "добрую дзяржаву", а на самога сябе, сваю адукацыю і актыўную жыццёвую пазіцыю. Паступова прыходзіць да вываду, што ўсяго трэба дасягнуць толькі ўласнымі сіламі, уласным інтэлектам і ўменнем, "бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы".

Нельга сказаць, што школа зусім не вучыць усяму гэтаму. Аднак яна не вучыць жыць у новым грамадстве. Таму эканамічнае навучанне з'яўляецца для нас не проста важным, а жыццёва неабходным, без якога наўрад ці магчымы паспяховы пераход да рыначнай эканомікі.

Перш за ўсё варта адзначыць, што наша рэспубліка не адзіная, у школах якой будзе праводзіцца сістэматызаваная эканамічная адукацыя. Цяпер нам асабліва спатрэбіўся б вопыт тых, хто мае поспехі ў гэтай галіне: ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі. Як навучаюць эканамічным азам там, дзе такая адукацыя ўжо вядзецца і прыносіць свае дывідэнды? Думаецца, што не варта забываць і нашых бліжэйшых суседзяў — былых партнёраў па СССР. Магчыма, многа карыснага для сябе мы змаглі б таксама пераняць з вопыту польскіх школ? Аднак, на жаль, азнаямленча-забаўляльныя прагулкі за рубеж па-ранейшаму ў большай пашане ў кіруючых работнікаў адукацыі, чым паездкі па патрэбнай справе, для якіх заўсёды чамусьці няма грошай. Тым не менш, прыйдзецца знайсці і грошы, і новых работнікаў, паколькі вельмі вялікая стаўка, калі размова ідзе аб падрыхтоўцы цэлых пакаленняў для жыцця ў непрывычных для нас, але звычайных для ўсіх астатніх эканамічных адносінах.

Тут жа ўзнікае шэраг практычных пытанняў. І на першым месцы знаходзіцца пытанне аб самім змесце эканамічнай адукацыі школьнікаў.

Цяпер эканамічная адукацыя ў школе прадстаўлена галоўным чынам працоўным навучаннем, прычым, перавага аддадзена, як правіла, найбольш простай фізічнай працы. Ёсць і яшчэ адна форма нашай, па сутнасці, псеўдаэканамічнай адукацыі школьнікаў. Гэта напаўскрытая эксплуатацыя дзіцячай працы пад прыкрыццём малых прадпрыемстваў і кааператываў пры школах. Сумна, што гэта цынічная форма заняволення дарослымі дзяцей вітаецца на ўсіх афіцыйных узроўнях, аж да міністэрства.

Акрамя таго, да эканамічнай адукацыі нашых школьнікаў часта адносяць урокі геаграфіі, перш за ўсё тыя раздзелы, якія звязаны з эканомікай. Да тэарэтычнай часткі эканамічнай адукацыі адносяць таксама і ўрокі гісторыі, паколькі многія настаўнікі праводзяць дадатковыя ўрокі па праблемах станаўлення рыначных адносін у рэспубліцы, а таксама ствараюць у сваіх школах эканамічныя музеі і вывучаюць эканамічную гісторыю краю.

Такое на сённяшні дзень становішча ў эканамічнай адукацыі ў школах рэспублікі, з якімі мы збіраемся пераўтвараць эканоміку. Да пераходу да рэальнага рынку такіх павярхоўных ведаў аб самім рынку цалкам хапала. Цяпер жа гэтага зусім мала. Больш таго, адносна сучасных патрабаванняў грамадства было б больш правільна сказаць, што ў нашай школе наогул адсутнічае эканамічная падрыхтоўка дзяцей. Яе трэба будзе стварыць.

Перш за ўсё, эканамічнае навучанне павінна прысутнічаць не ў выглядзе ўрывачных ведаў у "чужых прадметах", а ў выглядзе ўласнага, спецыяльнага прадмета па эканоміцы. Выкладацца гэты прадмет павінен не факультатыўна, а ў рамках асноўнай, абавязковай праграмы. Прычым, навучанне эканамічным адносінам мэтазгодна ўвесці ў абавязковую праграму ўжо з пачатковых класаў.

Спецыяльны прадмет па эканоміцы для школьнікаў можа называцца па-рознаму: "Асновы эканомікі", "Асновы эканамічных ведаў", "Пачатак эканомікі", "Я і эканоміка" і г.д. Напрыклад, у ЗША гэты прадмет называецца ў большасці выпадкаў "Прыкладная эканоміка". У пачатковых класах яго назва можа быць: "Займальная эканоміка", "Эканамічная граматыка", "Эканамічны слоўнік" і г.д.Заўважу, што мне ўжо даводзілася рэцэнзаваць школьныя падручнікі (конкурсныя) па гэтаму прадмету. Лічу, што ў нас ёсць з чаго выбраць для сучасных школьнікаў. Праўда, усе падручнікі толькі для старшакласнікаў.

Думаецца, што эканамічная адукацыя ва ўрочны час павінна быць прадстаўлена не толькі адным, прычым тэарэтычным прадметам. Трэба падумаць аб практычнай "дабаўцы", напрыклад, такім спадарожным практычным прадмеце, як эканоміка-камп'ютэрныя гульні. Гэты прадмет у залежнасці ад складанасці можа быць распаўсюджаны як сярод старшакласнікаў, так і школьнікаў малодшых класаў.

Але навучанне эканоміцы ў школе, безумоўна, не можа абмяжоўвацца толькі абавязковым спецыяльным прадметам. Ужо гаварылася, што патрэбна сістэмная эканамічная падрыхтоўка школьнікаў. У сувязі з гэтым варта ўлічыць, што вучыць эканоміцы — гэта вучыць рацыянальна, найбольш эфектыўна думаць і дзейнічаць. Эканамічныя веды павінны прысутнічаць ва ўсіх школьных прадметах.

Тут трэба звярнуць увагу, што развіццё эканамічнага мыслення школьнікаў прадугледжвае псіхалагічнае "суправаджэнне". Развіццё эканамічнай прадпрымальнасці звязана з расшырэннем кантактаў, з уменнем працаваць з людзьмі. Таму псіхолагаэтычная адукацыя мае выключна важнае значэнне. У яе мэтазгодна ўключыць заняткі па псіхалогіі і этыцы зносін, асновах дзелавой этыкі, этыкі зносін з равеснікамі, з настаўнікамі, з бацькамі, вывучэнне этыкі сямейных адносін.

Гаворачы аб урочнай рабоце, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на ўрокі працы. Я наогул лічу, што іх трэба адмяніць. Тое, што задавальняла грамадства ў 50-60-я гады, калі праца была пераважна фізічнай, не задавальняе цяпер, з уваходжаннем у XXI стагоддзе і разгалінаваннем рэвалюцыйных пераўтварэнняў у навуцы і тэхніцы. Урокі працы павінны цяпер даваць асновы работы на сучаснай вытворчасці, а таксама пачатковыя навыкі па самастойнай арганізацыі такой вытворчасці. Яны павінны даваць практычныя навыкі ў прадпрымальніцтве, у арганізацыі бізнесу,павінны стаць састаўной часткай эканамічнай падрыхтоўкі школьнікаў. Іх можна перадаць таксама сістэме прафесійнага навучання, дзе даюць навыкі ў розных сучасных прафесіях.

...Навучанне эканоміцы з'яўляецца задачай не толькі ўрочнай работы. Выключна важнымі з'яўляюцца розныя формы пазаўрочнай работы. Сюды трэба, перш за ўсё, аднесці эканамічныя гульні, якія, дарэчы, можна праводзіць і на ўроках, дыспуты па эканамічных праблемах, творчыя лабараторыі па праблемах эканомікі, эканаміныя школьныя музеі, школьныя клубы і працоўныя таварыствы школьнікаў.

Але самай дзейснай і выніковай формай эканамічнага выхавання і навучання, на маю думку, з'яўляецца стварэнне ў школе так званай акцыянернай кампаніі. Гэты метад навучання шырока выкарыстоўваецца за мяжой, асабліва ў ЗША.

Такая акцыянерная кампанія мае яўныя перавагі перад малымі прадпрыемствамі і іншымі школьнымі аб'яднаннямі. У гэтых аб'яднаннях, якімі б дабрачыннымі лозунгамі яны ні прыкрываліся, дзеці набываюць толькі навыкі больш ці менш выгаднага продажу сваёй рабочай сілы, што звычайна па-фарысейску падносіцца як набыццё навыкаў у працы. У акцыянернай жа кампаніі няма нават скрытай эксплуатацыі працы дзяцей, паколькі вучні ў ёй адначасова з'яўляюцца ўласнікамі (акцыянерамі), гаспадарамі, арганізатарамі (менеджэрамі) і рабочымі выканаўцамі сваёй уласнай справы. Вучні аплачваюць арэнду за карыстанне памяшканнем (школьнымі пакоямі, класамі, калідорам), самі набываюць нескладанае абсталяванне і сыравіну, таму вырабляюць не рэсурса-, а працаёмкую прадукцыю. Гэта можа быць выраб эмблем на майках, кепках (ужо вырабленых фабрычна), пашыў адзення для цацак, асаблівая маркіроўка школьных ручак, партфеляў, бірулек для ключоў. Акцыянерная кампанія ствараецца як эканамічна самастойная і юрыдычна незалежная арганізацыя. Гэта дае магчымасць школьнікам набываць навыкі ў сацыяльным статусе не толькі наёмнага работніка, але і ўласніка, што ва ўмовах сучаснай рыначнай эканомікі вельмі неабходна.

Безумоўна, няпроста перабудаваць школу. Але паўнацэнная эканамічная адукацыя дзяцей неабходна. Значыць, патрэбны кадры, адпаведныя спецыялізацыі на факультэтах у педагагічных ВНУ. Неабходна па-новаму падысці да гэтай праблемы і інстытутам удасканалення настаўнікаў. А пакуль па-сапраўднаму рупяцца на ніве эканамічнай адукацыі школьнікаў толькі адзіночкі-энтузіясты.

**Ніна КУНГУРАВА, доктар сацыялагічных навук, прафесар Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.**



Не залежваецца на прылаўках магазінаў прадукцыя Івянецкага завода мастацкай керамікі. Выбар яе разнастайны — кафейныя і чайныя сервізы, дэкаратыўныя вазы, насценныя талеркі, наборы для напіткаў. Створаныя ўмелымі рукамі беларускіх майстроў, яны ўпрыгожваюць штодзённы быт і святочны стол.

Калектыў завода шмат зрабіў для развіцця старадаўняй ганчарнай справы.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

## ЭКАНОМІКА

### МОТАШЛЕМ ПА–ІТАЛЬЯНСКУ

Сумесным беларуска-італьянскім прадпрыемствам "А Джы Ву Полспо", створаным на полацкім ВА "Шкловалакно", асвоена вытворчасць новага тыпу моташлема. Ён мае больш сучасны дызайн, які адпавядае патрабаванням сусветных і еўрапейскіх стандартаў. Гэта дасць магчымасць пастаўляць новы тып прадукцыі на экспарт.

Паралельна тут вядуцца работы па асваенню і выпуску будаўнічых касак на аснове палімерных матэрыялаў. Паводле папярэдніх звестак, у беларускіх будаўнікоў новая прадукцыя павінна карыстацца попытам.

В.АЗАРАЎ.

## "ПАС"—палітыка-аналітычная служба

# Раяць эксперты Еўрапарламента

Вопыт даказвае, што найбольш аб'ектыўным індыкатарам дэмакратычнасці грамадства з'яўляюцца выбары ў вышэйшыя структуры ўлады. Адзін этап намі пройдзены — грамадзяне рэспублікі выбралі кіраўніка дзяржавы. Які ж урок, на думку замежных экспертаў, нам трэба атрымаць з першага выбарнага марафона ў суверэннай дзяржаве Рэспубліка Беларусь?

Бадай, самыя галоўныя вывады экспертаў спецыяльнай групы Еўрапейскага парламента па кантактах з рэспублікамі СНД датычаць не прэзідэнта, а прадстаўнікоў заканадаўчай галіны ўлады. Эксперты Еўрапарламента ў сваім заключэнні канстатуюць, што Беларусь застаецца адной з нямногіх рэспублік былога СССР, дзе яшчэ не праходзілі свабодныя парламенцкія выбары. У дзеючым Вярхоўным Савеце пераважаюць былыя камуністы з ліку наменклатуры, і гэта, па сутнасці, "партыя ўлады". Спецыяльная група Еўрапарламента прама ўказвае, што "спадзяецца на неадкладнае аб'яўленне парламенцкіх выбараў". І каб рэспубліка не паўтарыла арганізацыйных памылак першага выбарнага марафона, замежныя эксперты далі свае рэкамендацыі. Па-першае, яны лічаць, што прадстаўнікі палітычных партый і грамадскія наглядальнікі павінны прысутнічаць пры фактычным падліку галасоў у цэнтральнай штаб-кватэры, а не толькі на радавых участках для галасавання. Кантроль за спісам выбаршчыкаў і зверкай подпісаў, на іх думку, павінен быць яшчэ больш жорсткім, паколькі некаторыя наглядальнікі адзначалі факты шматлікіх подпісаў, зробленых адной і той жа рукой. Указваецца, што трэба перагледзець практыку доступу да ўрнаў для галасавання за 10 дзён да афіцыйна аб'яўленага дня выбараў, паколькі яна дае магчымасць для фальсіфікацый. На думку замежных наглядальнікаў, трэба таксама перагледзець практыку перанясення ўрны з дома ў дом, каб маглі прагаласаваць старыя і хворыя. У час такога збору галасоў як мінімум павінны прысутнічаць наглядальнікі.

БЕЛІНФАРМ.



## НЕРУШ

З прысваеннем дзяржаўнаму нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" статуса біясфернага запаведніка многае тут пачало змяняцца да лепшага. Вырашана значна больш увагі ўдзяляць навукова-даследчай рабоце, удасканальванню аховы унікальнага кутка прыроды, яго раслін і жывёл. Па-іншаму будзе арганізавана і наведванне пушчы турыстамі. У планах кіраўніцтва запаведніка — распрацоўка маршрутаў для невялікіх груп у самыя прыгожыя і рамантычныя куточкі, дзе можна бачыць дзівосную прыгажосць старажытнага лесу.

...А цяпер у пушчы — залатая восень.

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

## СКРЫЖАВАННЕ

# Заяву давялося перапісваць па–руску

*Летам, пад час прэзідэнцкіх выбараў, я ішла па Камароўскім рынку і ўбачыла такую сцэну: каля падземнага пераходу сядзеў сівы мужчына і збіраў подпісы за Зянона Пазьняка. Адразу ж знайшлася жанчына, што пачала крычаць на ўсё наваколле:*

*"За кого голосуете, люди? Ведь он же притесняет русский народ. Вот и ребенка не могу в этом году отдать в русскую школу".*

Хтосьці пачаў ёй пярэчыць, што жыве яна не ў Расіі, а ў Беларусі, таму і патрэбна вывучаць беларускую мову. Але большасць прысутных ішлі далей , і на іх тварах панавала абыякавасць.

А што зараз робіцца ў навучальных установах, у школах, напрыклад? Першакласнікі вывучаюць усе дысцыпліны выключна на беларускай мове. Дый да самой мовы маюць дачыненне не з другога ці трэцяга класа, як раней, а адразу. І наогул, прыкладна да шостага класа ўключна павялічылася колькасць гадзін выкладання роднай мовы.

А вось у дзесятых класах агульнаадукацыйных школ цяпер чатыры гадзіны рускай літаратуры і... дзве беларускай. Пра мову буду маўчаць, бо яе зусім няма. Можа таму, што мала настаўнікаў? Але ж я ведаю шмат беспрацоўных ці працуючых у "камках" вельмі добрых настаўнікаў, якія маглі б выкладаць не толькі ў нашай, але і ў іншых школах, дзе не хапае выкладчыкаў беларускай мовы.

Яшчэ ў канцы мінулага навучальнага года нам абяцалі, што ва ўсіх тэхнікумах, ПТВ, каледжах і г.д. выкладанне прадметаў будзе весціся выключна на беларускай мове. Аднак усе мае сябры, што паступілі сёлета ў гэтыя навучальныя ўстановы, кажуць, што ніякіх змен не адбылося. А дзе-нідзе зусім няма ўрокаў беларускай мовы і літаратуры.

Прыгадваю прыватны выпадак. Несла я заяву да дырэктара школы, а напісана яна была на беларускай мове. І што? Прымусілі мяне перапісваць на...рускую мову. Між тым, ёсць жа закон аб тым, што справаводства павінна весціся на роднай мове.

Я мяркую, што такіх школ, дзе дырэктар патрабуе заявы на рускай мове, нямала яшчэ ў нашай краіне.

Кожная сур'ёзная справа, на маю думку, павінна падмацоўвацца матэрыяльна. Тым, хто стала працуе на роднай мове, трэба, відаць, даплачваць пэўныя грошы: вадзіцелям аўтобусаў і тралейбусаў, напрыклад, за тое, што яны па-беларуску аб'яўляюць прыпынкі, настаўнікам, што выкладаюць на роднай мове прадметы, і г.д.

І гэткі закон ёсць. Але ён чамусьці дрэнна працуе. Можа таму, што няма грошай. Ці прычыны трэба шукаць ва ўрадавых установах?

**Кацярына Валасевіч, вучаніца 10 "Б" класа 38-й мінскай школы.**

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### ЁСЦЬ І ТАКІ КОНКУРС

*У Шаркоўшчынскім раёне стала традыцыяй праводзіць конкурс прафесійнага майстэрства сярод спецыялістаў па... штучнаму асемяненню буйной рагатай жывёлы. Прайшоў такі конкурс і сёлета. Улічваліся не толькі веданне спецыялістамі тэорыі, але і практычныя навыкі.*

Лепшым тэхнікам-асемянатарам прызнана Антаніна Пятроўна Скопец з калгаса імя Ільіча, якая працуе больш за дзесяць гадоў і дабіваецца добрых паказчыкаў. Майстэрства патрэбна ў любой справе!

### "ДРАЎЛЯНЫ" ЮБІЛЕЙ

*Пяць гадоў, мінула з таго часу, як у Лепелі ўтварылася літаратурнае аб'яднанне "Выток". З гэтай нагоды ў раённым Доме культуры прайшоў восеньскі паэтычны баль. Былі запрошаны сябры літаб'яднання, госці з іншых гарадоў. А фундатарам мерапрыемства стала мясцовая дарожна-будаўнічая арганізацыя.*

"Драўляным" юбілеем лічыцца ў народзе пяцігоддзе сямейнага жыцця. Заключыўшы шлюб з музаю, за гэты час "Выток" нарадзіў двух дзіцятак — зборнікі "Запалі імгненне" (1991), "Наступіць дзень" (1992). Літаратары актыўна ўдзельнічаюць у культурным жыцці раёна.

Уладзімір МІХНО.

### "САБАЧАЯ РАДАСЦЬ" З ЛЯХАВІЧАЎ

*Нямецкім сабакам, напэўна, спадабаліся спецыяльныя кансервы, якія пачаў выпускаць калгас "Новае жыццё" Ляхавіцкага раёна.*

Гаспадарка паставіла ўжо ў Германію дзве буйныя партыі сваёй новай прадукцыі і цяпер рыхтуецца да адпраўкі наступнай.

БЕЛІНФАРМ.



## ПА-СУСЕДСКУ

### А ЎЦЯКАЦЬ НЯМА КУДЫ...

*У Расіі прынята федэральная міграцыйная праграма. Выклікана яе прыняцце тым, што сёння ў Расіі налічваеццца каля мільёна мігрантаў з краін блізкага замежжа, 640 тысяч чалавек афіцыйна прызнаны бежанцамі і вымушанымі перасяленцамі. Асноўнымі "пастаўшчыкамі" бежанцаў па-ранейшаму застаюцца Таджыкістан, Грузія, Азербайджан, Чачня.*

Для рэалізацыі мер па прыёму бежанцаў, прадугледжаных праграмай, патрабуецца не менш як 1,5 трыльёна рублёў. З бюджэту пакуль што выдзелена толькі чацвёртая частка неабходнай сумы. Так што, рэалізацыя праграмы застаецца пад вялікім сумненнем. У сувязі з гэтым узяты курс на правядзенне абмежавальнай міграцыйнай палітыкі. І ў гэтым напрамку ініцыятарам выступае Масква. Тут робіцца ўсё, каб абмежаваць уезд бежанцаў у сталіцу.

На сённяшні дзень уладамі горада афіцыйна зарэгістравана 14 тысяч бежанцаў. Плюс да гэтага налічваецца каля паўмільёна прыезджых, якія не маюць такога статуса і ў сувязі з гэтым вымушаны прытрымлівацца ўстаноўленага максімуму для пражывання і за кожны дзень знаходжання плаціць 10 працэнтаў. мінімальнай зарплаты. "Галаўны боль" міграцыйных службаў — іншаземцы з пратэрмінаванай візай або зусім без яе. Такіх набралася каля 200 тысяч: з В'етнама, Ірака, Судана, Руанды і іншых афрыканскіх і арабскіх краін.

### НОВЫЯ СТАТУТЫ

*У расійскія часці пачалі паступаць новыя воінскія статуты.*

У адпаведнасці з новым статутам, афіцэр мае права на захоўванне і нашэнне зброі не толькі на службе, але і ў вольны ад яе час на вуліцы і дома. Гэта своечасовае новаўвядзенне тлумачыцца тым, што ў апошні час значная колькасць расійскіх афіцэраў пачала падвяргацца нападам, якія часта заканчваліся смерцю няўзброеных ваеннаслужачых.

### ВІЗІТ, ЯКОГА ЧАКАЛІ...

*Завяршыўся візіт міністра замежных спраў Рэспублікі Польшча Анджэя Аляхоўскага ў Беларусь.*

У ходзе візіту абмяркоўваліся некаторыя аспекты эканамічнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі. Як вядома, Польшча стаіць на першым месцы ў спісе заходніх партнёраў нашай рэспублікі па эканамічнаму супрацоўніцтву. Па аб'ёму тавараабароту і шырыні асартыменту Беларусь абышла Украіну і іншыя краіны СНД, акрамя Расіі.

БЕЛІНФАРМ.

